ЗАХОДНЕБЕЛАРУСКАЯ ГРАМАДЗКА-ПАЛІТЫЧНАЯ ГАЗЕТА ЗАСНАВАНА Ў 1920 г.

# ПАГОНЯ

№ 19 (118) 19 – 25 траўня 1995 г. Кошт 300 рублёў

КАМЕНТАРЫ ВЫБАРАЎ І РЭФЕРЭНДУМА - ст. 2.

ЗАРАБЛЯЮЦЬ ГРОШЫ ЗДАЧАЙ КРЫВІ - ст. 3.

БЕЛАРУСЫ ЗАМЕЖЖА ПРАТЭСТУЮЦЬ - ст. 4.

ПРАГРАМА ТЭЛЕБАЧАНЬНЯ НА ТЫДЗЕНЬ: Менск – Варшава – Масква - Санкт-Пецярбург.

## ГОРАДНЯ ПРАГАЛАСАВАЛА ЗА НАРОДНЫ ФРОНТ І «ЗАВАЛІЛА» РЭФЕРЭНДУМ

**Лёс і рэферэндума і выбараў у дэпутаты Вярхоўнага Савета ў Горадні вызначылі пеньсіянеры, ветэраны, адстаўнікі, рускія і камуністы розных колераў і адценьняў. Беларусы - моладзь, студэнты, рабочыя, беспрацоўныя - на выбары і на рэферэндум не пайшлі. З самага ранку да выбарчых урнаў пацягнуліся чарадою ў асноўным сівенькія бабулькі і дзядулькі, якія дрыжачымі ад старасьці рукамі выкрэсьлівалі словы "супраць". Так людзі ўчарашняга дня вызначылі на Беларусі дзень заўтрашні.**

Лічбы працэнтаў чарговай перамогі Лукашэнкі над сваім народам ужо вядомыя. З іх вынікае, што Горадня ў цэлым рэферэндум ..."заваліла". Усяго 49,9 працэнта тых, хто меў права галасаваць, прыняло ўдзел у бруднай палітычнай гульні. Дзякуючы больш чым 80-працэнтаваму ўдзелу у рэферэндуме адстаўнікоў і пеньсіянераў Фолюша толькі ў Кастрычніцкім раёне Горадні рэферэндум адбыўся. Там прагаласавала 50,3 працэнта. І калі адкінуць "лукавыя" працэнты, то прыходзіш да другой высновы - унутраную і зьнешнюю палітыку Беларусі на бліжэйшы час вызначыла... меньшасьць.




У тым самым Кастрычніцкім раёне (найбольш суцяшальным для Лукашэнкі) на першае пытаньне рэферэндума далі станоўчы адказ 77,3 працэнта ад ліку тых, хто прыйшоў на выбарчыя ўчасткі. Гэта складае 44 тысячы 724 чалавекі. Астатнія - 70 тысяч 398 выбаршчыкаў - альбо прагаласавалі "супраць", альбо непажадалі ўдзельнічаць у пахаваньні роднай мовы. Адказы на астатнія тры пытаньні яшчэ больш сумныя для аўтара гэтага бруднага сцэнару. За камуністычныя сімвалы прагаласавала, напрыклад, 37 тысяч 248 выбаршчыкаў. А супраць - 18 тысяч 185. Калі дадаць да апошняй лічбы яшчэ 2423 несапраўдныя бюлетэні, то міжволі ўзьнікае пытаньне: ці варта было выкідваць на вецер тыя амаль 10 мільярдаў рублёў, якія патрачаныя Лукашэнкам на правядзеньне рэферэндума? Ці варта ва ўгоду меншасьці выкідваць на вецер 30 мільёнаў долараў, якія спатрэбяцца на тое, каб памяняць сімволіку?

Яшчэ адной "аплявухай" гарадзенцы узнагародзілі прэзідэнта па выніках выбараў. Нягледзячы на неймаверныя высілкі лукашэнкаўскіх газетаў, радыё і тэлебачаньня, Горадня прагаласавала за кандыдатаў Народнага Фронту. Па трох выбарчых акругах - Прынёманскай, Пралетарскай і Горкаўскай - дзе балатаваліся фронтаўцы, яны набралі пераканаўчую большасьць галасоў. Яшчэ па адной - Дзяржынскай - кандыдат ад Народнага Фронту Валеры Задаля, атрымаўшы падтрымку 2557 чалавек, адстаў ад пераможцы толькі на 7 галасоў.

На вялікі жаль, выбары па гэтых акругах не адбыліся. Людзі, якія ні пры якіх абставінах не галасавалі б за камуністаў і за палітыку Лукашэнкі, на выбары не пайшлі. Больш дэталёвы аналіз таго, што адбылося і чаму так адбылося, яшчэ наперадзе. Але ўжо цяпер відавочна, што зноў давядзецца траціць шалёныя грошы на другі круг выбараў. Пры гэтым хочацца нагадаць, што ні ў Лукашэнкі, ні ў Вярхоўнага Савета грошай няма. Гэтыя грошы яны зноў выцягнуць з нашых з вамі кішэняў. І таму, там дзе ёсьць яшчэ магчымасьць прагаласаваць за будучыню, за персьпектыву, за лепшае жыцьцё - за прадстаўнікоў Народнага Фронту - трэба гэта зрабіць.

Нагадваем, што такая магчымасьць яшчэ ёсьць у выбаршчыкаў шасьці акруг Гарадзеншчыны. У Лідзе - за спадароў Судніка і Лазарэвіча, на Івейшчыне - за Келдановіча, на Астравеччыне - за Баўсюка, у Наваградку - за Макарчыка, на Смаргоньшчыне - за Дзяргачова. Акрамя іх у другі тур выбараў прайшлі саюзьнікі Фронту, прадстаўнікі Саюзу Палякаў спадары Гавін, Чэпік і спадарыня Фустачэнка.

Ёсьць адна аксіёма: калі ты не вырашаеш свой лёс, то за цябе гэта робяць іншыя. І не заўсёды на тваю карысьць. Калі ты не цікавішся палітыкай, то палітыка пачынае цікавіцца табою: праз нізкія зарплаты і беспрацоўе, праз дурных начальнікаў і карупцыю, праз злачыннасьць, пры якой нармальнаму чалавеку ўвечары ўжо боязна выйсьці на вуліцу... Вынікі выбараў і рэферэндуму яшчэ не аднойчы пацьвердзяць, што гэтая аксіёма мае сілу і на Беларусі.

А ўвогуле, сітуацыю можна ахарактэрызаваць некалькімі словамі: беларусы зноў на злосьць кандуктару набылі білет і пайшлі пешшу.

Мікола МАРКЕВІЧ.

## БІЗНЭСМЭНЫ НЕ СЬПЯШАЮЦЦА РАСКАШЭЛЬВАЦЦА

У тэатры лялек горада Горадні адбыўся дзевяты адкрыты аўкцыён па продажы аб'ектаў камунальнай ўласнасьці.

На аўкцыён было выстаўлена пяць лотаў, папярэдняя цана якіх складала агулам 1227,47 тысяч рублёў. Гарадзенскія бізнэсмэны на гэты раз не выявілі цікаўнасьці да прапануемых аб'ектаў. Асноўная прычына - няпэўнасьць палітычнай сітуацыі і варожасьць сёньняшніх уладаў у адносінах да прыватнага інтарэсу.

Увогуле не зарэгістравалася жадаючых набыць ва ўласнасьць будынак па вуліцы Дзяржынскага,1-А, будынак па вуліцы Вялікая Траецкая,5-А, будынак па вуліцы М.Васілька,34. Усяго па два чалавекі зарэгістравалася на лоты пад N 1 і N 2.

Аўкцыён прайшоў за чвэрцьгадзіны і ў выніку крама N 16 Горгароднінагандлю па вул.Фамічова была прададзена за 188 мільёнаў, стартавы кошт - 169,33; будынак па вул.Чырвонапартызанскай,13 з кавалкам зямлі прададзены ўсяго за 38 мільёнаў рублёў.

Наступны аўкцыён плануецца правесьці ў Горадні 30 траўня.

## У ЯКАСЬЦІ ЗАРПЛАТЫ – ДАМКРАТЫ

Прамысловыя прадпрыемствы Горадні перажываюць зараз ня лепшыя часы. Прадукцыя многіх з іх ня мае збыту. Таму, каб заплаціць работнікам за выкананую працу, адміністрацыі прадпрыемстваў ідуць на разьлік гатовай прадукцыяй. Вось і на Гарадзенскім заводзе такарных патронаў вымушаны пайсьці на гэта: работнікі атрымаюць за красавік замест грошай дамкраты з разьліку 41 тысяча рублёў за адзін. Некаторым пашанцавала, бо знайшоўся чалавек, які пагадзіўся дапамагчы з іх рэалізацыяй. Астатнім нічога не застаецца, як самім шукаць магчымасьць прадаць тыя 10-15 дамкратаў, якія яны атрымаюць.

А.Г.

## ІЗНОЎ СА СКАРГАМІ Ў МАСКВУ

Дэлегацыя праваслаўных вернікаў Горадні зьдзейсьніла неафіцыйнае паломніцтва ў Маскву ў рэзідэнцыю Патрыярха ўсея Русі Аляксея II. Падчас наведваньня гарадзенцамі сьвятой рэзідэнцыі была падана скарга ў сакратарыят на імя Патрыярха, у якой вернікі выказалі пратэст супраць дзеяньняў на Беларусі Мітрапаліта Філарэта. Таксама вернікі патрабуюць адкліканьня з Беларусі Мітрапаліта Філарэта. Свае патрабаваньні гарадзенцы грунтуюць на доказах шкодных дзеяньняў для ідэі праваслаўя на беларускай зямлі Патрыяршага Экзарха ўсея Беларусі.

В.ЖУКОВІЧ.

## ГАРАДЗЕНСКІЯ ЛЮТЭРАНЕ АДКРЫВАЮЦЬ ТАТАРСТАН

Дэлегацыя вернікаў-лютэран Горадні па запрашэньню сьвятога Муфціяту Татарстану наведала горад Елабуга гэтай рэспублікі. Гарадзенскія лютэране ўзялі ўдзел у добраўпарадкаваньні могілак, дзе пахаваны нямецкія жаўнеры, загінуўшыя ў ваенных лагерах для палонных Другой сусьветнай вайны. Разам з японскай дэлегацыяй гарадзенцы ўстанавілі на могілках сьвяты крыж ушанаваньня памяці палеглых. Узначальваў дэлегацыю гарадзенскіх лютэран дзіякан Сакаловіч.

Г.ПАДЛЯШУК.

# БЕЛАРУСЫ ЗНОЎ НАСТУПІЛІ НА ГРАБЛІ?

## КОЛЬКАСЬЦЬ ГАЛАСАВАЎШЫХ

14 траўня прайшлі выбары ў Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь і рэферэндум па прапанаваных прэзідэнтам пытаньнях.

Па рэспубліцы, па папярэдніх дадзеных, у галасаваньні ўзялі ўдзел 64,5% выбаршчыкаў ад занесеных у сьпісы. Меней за ўсё выбаршчыкаў прыйшло на выбарчыя ўчасткі Менску 52%, на Берасьцейчшыне - 69,1%, на Гарадзеншчыне - 65,2%, Магілёўшчыне - 64,6%, Меншчыне - 69,5%, Не адбыліся выбары ў пяці акругах Гомельскай вобласьці. Дэпутатаў не абралі ў шасьці акругах Берасьця. Усяго па берасьцейшчыне па папярэдняй інфармацыі абрана шэсьць дэпутатаў Вярхоўнага Савета. Па Менску з 42 выбарчых акругах выбары адбыліся ў 31 акрузе. Ніводзін з кандыдатаў у гэтых акругах не абраны. У Горадні не адбыліся выбары ў чатырох выбарчых акругах. Усяго па Гарадзенскай вобласьці ў будучы парламант прыйшлі тры кандыдаты. У 32 акругаў Магілёўшчыны дэпутатаў не абіралі. На Віцебшчыне абраны тры дэпутаты ВС Рэспублікі Беларусь, не адбыліся выбары ў двух акругах. У сямі акругах Бабруйска ніводзін дэпутат не абраны. 51,6% выбаршчыкаў ад ліку ўнесеных у сьпісы ўзялі ўдзел у галасаваньні ў Салігорску. Але ніводзін кандыдат у дэпутаты не набраў патрабуемай колькасьці галасоў.

## ПРАЙШЛІ Ў ДЭПУТАТЫ

Усяго ў рэспубліцы абрана 18 дэпутатаў з 260. У першым туры ў Вярхоўны Савет прайшоў нядаўні дарадчык прэзідэнта Беларусі, старшыня падкамісіі Вярхоўнага Савету Анатоль Лябедзька, памочнік прэзідэнта па асобых даручэньнях Віктар Кучынскі, намесьнік старшыні прэзідэнцкага камітэту па барацьбе з карупцыяй Мікалай Карпевіч, старшыня кантрольнай палаты Васіль Саковіч. Таксама ў першым туры былі абраны выканаўчы сакратар рабочай групы СНД Іван Каратчэня і лідэр Федэрацыі прафсаюзаў Уладзімір Ганчарык. Сярод абраных дэпутатаў - пракурор Берасьцейскай вобласьці Вячаслаў Любавіцкі і памочнік начальніка службы кантроля адміністрацыі прэзідэнта Пётр Хушма.

## НА ДРУГІ ТУР

У другі тур выбараў у Вярхоўны Савет у Менску па адной і той жа акрузе выйшлі былы віцэ-прэм'ер Віктар Ганчар і Уладзімір Заблоцкі (прэм'ер-міністр ценявога кабінету БНФ). У Шаркаўшчынскім раёне Віцебскай вобласьці ў другі тур выйшаў Уладзімір Новік - член прэзідыума Вярхоўнага Савету, Юры Хадыка - намесьнік старшыні Сойму БНФ, Юры Беленькі - сябра БНФ Станіслаў Багданкевіч - старшыня праўленьня Нацбанка. Па адной акрузе на другі тур ідуць Сяргей Калякін - сакратар партыі камуністаў і Уладзімір Несьцер - БНФ, па другой акрузе - Тамара Вінікава - старшыня акцыянернага камерцыйнага банку "Беларусбанк" і Яўген Новікаў - старшыня беларускай лігі правоў чалавека. На другі тур таксама выйшлі: Мікалай Чыгрынец, старшыня праўленьня акцыянернага таварыства "Андрэй Клімаў і К", начальнік Фрунзенскага райаддзелу міліцыі Менску Пётр Шкут, прэзідэнт Саюза прадпрымальнікаў Уладзімір Карагін, сябры Беларускага Народнага Фронту Сяргей Навумчык, Вінцук Вячорка, Віктар Івашкевіч, член каманды знатакоў Валянціна Голубева, Станіслаў Шушкевіч, камуністы Яўген Таўкачоў. Па той жа акрузе ідуць прадстаўнікі ад БНФ Уладзімір Анцулевіч і пэкэбовец Дзьмітры Іваноў. На другі тур прайшоў экс-прэм'ер Вячаслаў Кебіч, начальнік службы Кантролю адміністрацыі прэзідэнта Васіль Даўгалёў. У Віцебску на другі тур выбараў прайшлі восем прадстаўнікоў ПКБ, тры сябры БНФ, адзін прадстаўнік БСДГ. Сярод іх - галоўны рэдактар "Новай народнай газеты" Натальля Машэрава і сакратар партыі камуністых Васіль Новікаў. У Магілёве сярод дэпутатаў, што патрапілі на другі тур - Зьміцер Булахаў, старшыня парламанцкай камісіі па заканадаўству. У Бабруйску барацьбу ў другім туры сярод кандыдатаў працягнуць старшыня прэзідэнцкага камітэту па барацьбе з карупцыяй Юры Малушаў. Салігорскія выбаршчыкі прагаласавалі за віцэ-старшыню Беларускага незалежнага прафсаюза Васіля Юркіна і шахцёра Уладзіміра Пашкевіча, старшыня Беларускага незалежнага прафсаюза Віктар Бабаед, шахцёр Сяргей Пінчук, старшыня рэгіянальнай арганізацыі незалежных прафсаюзаў Лявон Мархотка і камуністы Валянцін Шчэрбін, усе гэтыя спадары возьмуць удзел у другім туры выбараў. У Сьветлагорску на другі тур са значным адставаньнем ад сваіх сапернікаў выйшаў галоўны рэдактар газеты "Свабода" Ігар Гермянчук, а ў Мозыры, таксама з вялікім адрывам ад свайго саперніка, - былы першы сакратар ЦК КПБ Анатоль Малафееў. У другім туры выбараў возьме ўдзел генеральны пракурор Васіль Шаладонаў. У Берасьці па трох акругах на другі тур выйшлі прадстаўнікі Рэспубліканскай партыі працы і справядлівасьці і партыі камуністых, яшэ ў двух акругах - камуністы сапернічаюць з безпартыйнымі, і ў адной акрузе разам з беспартыйным кандыдатам на другі тур трапіў сябра БСДГ. Не выйшаў на наступны тур ў галасаваньні лідэр ПКБ Віктар Чыкін і яго супернік па акрузе ад БНФ Артур Вольскі. Сярод няўдалых - кампазітар Ігар Лучанок, дэпутат Мікалай Скарынін, дэпутат, старшыня камісіі па галоснасьці і правах чалавека Сяргей Давідовіч, галоўны рэдактар газеты "Белоруссия" Ігар Асінскі.

## У АВАЛЬНАЙ ЗАЛЕ МОЖА АПЫНУЦЦА ПА НЕКАЛЬКІХ АКРУГАХ АЖ ПА ДВА ДЭПУТАТЫ

У інтэрв'ю карэспандэнту Аляксандр Абрамовіч сказаў, што яўка выбаршчыкаў склала спрагназаваную. Спадар Абрамовіч заявіў, што Цэнтрвыбаркам, нягледзячы на фінансавыя праблемы, у любым выпадку знойдзе магчымасьць правесьці паўторнае галасаваньне, але наўрад ці па яго выніках будзе сфармаваны парламант. Хутчэй за ўсё, давядзецца правдзіць паўторныя выбары. Статус дэпутатаў на працягу гэтага перыяду будзе невядомы, паколькі былы парламант ня страчвае свае паўнамоцтвы, а новыя дэпутаты іх набываюць. Атрымаецца так, што па некаторых акругах інтарэсы выбаршчыкаў будуць прадстаўляць адразу па два дэпутаты.

## ВЫНІКІ РЭФЕРЭНДУМА

Як паведамілі ў камісіі Цэнтрвыбаркаму, па папярэдніх дадзеных ужо вядома, што на ўсе чатыры пытаньні большасьць выбаршчыкаў дала станоўчы адказ. Разам з тым, юрыстамі адзначаецца той факт, што механізм рэалізацыі рашэньняў рэферэндума заканадаўча не існуе. Акрамя таго, неадпаведнасьць фармулёвак пытаньняў па мове і сымболіцы зможа паслужыць прычынай таго, што вынікі рэферэндума будуць трактавацца падвойна. Неабходна адзначыць, што пры назначэньні рэферэндума, парламанцкая камісія па заканадаўству лічыла, што пытаньні па мове і праве прэзідэнта на роспуск парламанта ўвогуле нельга выносіць на рэферэндум, а два другіх пытаньні могуць несьці толькі кансультатыўны характар. У Віцебскай вобласьці прагаласавалі "за" (адпаведна па чатырох пытаньнях) - 86,8%, 80%, 86,6%, 81,3%, Гомельская вобласьць - 88,9%, 83,1%, 87,2%, 83,6%, па Менскай вобласьці - 80,7%, 74,3%, 82,2%6, 76,6%, па Берасьцейскай вобласьці - 83%, 74,9%, 83,3%, 78,8%, па Гарадзенскай вобласьці -75,4%, 68,6%, 73,5%, 75,9%, па Магілёўскай вобласьці - 90,4%, 84,2%, 90,2%, 84,9%, па Менску - 76,2%, 58,7%, 73,3%, 64,3%.

**Пракаментаваць вынікі першага тура парламанцкіх выбараў і рэспубліканскага рэферэндуму мы папрасілі лідэраў палітычных партый і ру хаў краіны.**

*Зянон ПАЗЬНЯК, лідэр Беларускага Народнага Фронту:*

"Асабіста для мяне нечаканасьцяў не было. Як я і мяркаваў, мала хто прайшоў у дэпутаты ў першым туры. Праўда, я думаў, што ў Менску адразу будзе абраны прадстаўнік Фронту Валянцін Голубеў. І ён меў усе шанцы быць абраным, калі б на выбары прыйшло дзесьці на 150 чалавек болей. А так выбары былі прызнаны неадбыўшыміся.

Лёс будучага парламанта будзе вырашацца ў другім туры. Прычым высьвятлілася, што існуе даволі рэзкая палярызацыя выбаршчыкаў. Незалежна ад таго, як праводзілася агітацыя ў Менску,у другі тур, у асноўным, прайшлі прадстаўнікі БНФ і ПКБ.

Несумненна, адмоўную ролю для кандыдатаў ад БНФ адыграў і фільм "Нянавісьць: дзеці ілжы". Я, напрыклад, згубіў на гэтым фільме 15-20 працэнтаў галасоў. Увогуле, па маіх назіраньнях, узьдзеяньне гэтага фільму на розныя групы людзей неадназначныя: маладыя і больш адукаваныя адразу зразумелі яго, і фільм выклікаў у іх абурэньне. А вось людзі з больш нізкім інтэлектам, на які, уласна, і быў разьлічаны гэты фільм, паверылі гэтай ілжы. Сітуацыя паўтараецца, як гэта было ў 1990 годзе, калі працаваў аддзел прапаганды ЦК ПКБ і КДБ. Цяперашнія ўлады сьвядома ідуць на парушэньне законаў, каб выйграць выбары. Мы будзем, канешне, падаваць у суд на стваральнікаў фільма, і, магчыма, выйграем, але вынікі выбараў зьмяніць потым ужо будзе позна.

Што тычыцца другога тура галасаваньня, то малаверагодна, што і ён прынясе якія-небудзь вынікі. Невыключана, што ніадзін з двух кандыдатаў не набярэ неабходную колькасьць галасоў. Але самае верагоднае, што другі тур не адбудзецца ўвогуле - ня прыйдзе патрэбная колькасьць выбаршчыкаў. Ёсьць пэўная заканамернасьць, што на другі тур прыходзіць заўсёды менш выбаршчыкаў, чым на першы. Гэта ў любой дзяржаве. У нас ў сярэднім прыняло ўдзел у выбарах крыху больш 60 працэнтаў выбаршчыкаў, а ў Менску і таго меней - 52 працэнты. Таму, верагодна, галоўнай задачай у другім туры будзе забесьпячэньне яўкі народа на выбары. Хаця, хутчэй за ўсё, рэжым будзе старацца зрабіць усё магчымае, каб другі тур сарваць. І паколькі яны валодаюць радыё, тэлебачаньнем і адпаведнай гебельсаўскай структурай прапаганды, то падобныя спробы будуць небезпасьпяховымі".

Каментуючы вынікі рэферэндуму, З.Пазьняк адзначыў, што зьмяненьне сымболікі пацягне за сабой поўны падрыў міжнароднага аўтарытэту краіны і фактычна будзе пачаткам яе зьнішчэньня. Адказваючы на пытаньне аб магчымых варыянтах разьвіцьця падзей у Беларусі ў выпадку зрыву другога тура парламанцкіх выбараў, лідэр Народнага Фронту паведаміў, што, калі гэта адбудзецца, застанецца стары Вярхоўны Савет і будзе ўзмацняцца антыдэмакратычная тэндэнцыя ў дзяржаве, паскорыцца працэс здачы эканомікі.

Акрамя таго, лічыць З.Пазьняк, значна ўмацуюць свае пазіцыі на Беларусі чырвона-карычневыя, што, па сутнасьці, ужо адбываецца. Працяг гэтых падзей на фоне далейшага спаду эканомікі, зьніжэньня жыцьцёвага ўзроўню прывядзе, на яго думку, да напружаньня ў грамадстве. Тым не менш, спадар Пазьняк мяркуе, што да восені аўтарытэт Беларускага Народнага Фронту значна павысіцца.

Па словах З.Пазьняка, калі выбары не адбудуцца, наўрад ці прэзідэнту варта сьвяткаваць сваю перамогу. Ён заявіў, што аб перамозе прэзідэнта можна было б гаварыць, калі б ён, як генерал ПінаЧэт, зрабіў рэальныя паляпшэньні ў эканоміцы".

*Валеры ЯФІМАЎ, сакратар Цэнтральнага Савета Аграрнай партыі (АП):*

"Пакуль прычын для незадаволенасці ходам галасаваньня і вынікам выбараў у нас няма. Скаргаў на тое, што кандыдатам ад Аграрнай партыі чыняць якіясьці незаконныя перашкоды, у штаб АП не паступала. Чатыры нашых кандыдата ўжо абраны дэпутатамі ў новы парламант, яшчэ каля 70 прадстаўнікоў Аграрнай партыі прайшлі ў другі тур. Сярод сапернікаў кандыдатаў АП у другім туры, па нашых зьвестках, будуць у асноўным камуністы і гаспадарнікі. Спадзяемся, што ў будучым Вярхоўным Савеце мы атрымаем ня менш 40 месцаў".

*Уладзімір ЗАЙЦАЎ, адзін з кіраўнікоў Славянскага Сабора "Белая Русь":*

"Прычыны неадбыўшыхся выбараў у многіх выбарчых акругах крыюцца ва ўльтранацыяналістычнай партыі БНФ. Народнафронтаўцы, узурпаваўшы сродкі масавай інфармацыі на працягу шэрагу гадоў, ажыцьцяўлялі прамыўку мазгоў грамадзян у выгадным ім плане. У выніку, многія замбіраваныя людзі не пайшлі на ўчасткі. Персьпектывы сваёй партыі ў працэсе выбару ацэньваю як сярэдне-аптымістычныя. Высокі працэнт грамадзян, якія прагаласавалі ў падтрымку вылучаных прэзідэнатам пытаньняў на рэферэндум, наглядна прадэманстраваў сталасьць народа".

**СІМ**

# НЯНАВІСЬЦЬ-1. НЯНАВІСЬЦЬ-2. НЯНАВІСЬЦЬ-3. ПРАЦЯГ БУДЗЕ...

**..."Што пасееш, то і пажнеш!" Удумацца ў сэнс гэтай мудрай народнай прымаўкі хацелася б параіць "властьпридержащим товарищам" і іх галоўнаму "Товарищу". На жаль, падзеі перадрэферэндумнай кампаніі (дзякуючы намаганьням прэзідэнта пытаньне выбараў штучна было адсунута на другі план) канчаткова ўпэўнілі мяне ў тым, што раіць штосьці разумнае гэтым людзям марна, бо яны сваё ўжо "пасеялі і зараз песьцяць ўзыйшоўшыя парасткі. Назва гэтым парасткам - нянавісьць. Сьляпая нянавісьць, якую накіроўваюць добрыя павадыры і дарадцы.**

Спачатку яе аб'ектам была абраная карупцыя. Сьпекулюючы на характэрнай большасьці грамадзтва маўклівай агідзе да хабарніцтва, падману і іншых аналагічных зьяваў, прывітых уладзе за гады камуністычнага рэжыму, павадыры нянавісьці нарабілі шмат шуму. Былі тут і абяцаньні пасадзіць усіх карупцыянераў, і сьмешна інсьпіраваныя гісторыі з замахам на жыцьцё і здароўе змагароў за народнае шчасьце і г.д.

Дамогшыся перамогі на выбарах і зрабіўшы касьметычныя зьмены ў сістэме дзяржаўнай улады (пасадзіўшы ўсюды сваіх людзей) гэтыя самыя павадыры мусілі сваімі справамі спатоліць надзеі атручаных сваёй прапагандай людзей на кардынальнае паляпшэньне жыцьця ў краіне. Аднак справа разыйшлася са словамі. Трэба было шукаць вінаватых, бо ў грамадзтве расло расчараваньне палітыкай урада. Спачатку вінаватымі зрабілі тых з "найчестнейших и найпорядочнейших" людзей з кампаніі прэзідэнта, якія зразумелі памылковасьць сваёй стаўкі на Лукашэнку. "Прэдатели" - адным словам. Але і гэтая акцыя аўтарытэту ўладам не дадала. Трэба было штосьці рабіць. Ня здолеўшы даць людзям хлеба, "вярхі" вырашылі падкінуць хоць бы "відовішча" і зноў пусьцілі ў ход выпрабаваную зброю - нянавісьць, скіраваную на тых, хто захаваў у сабе маральную патрэбу сказаць "НЕ" злу і падману. Усе, хто хоць слова наважыўся сказаць супраць "Агульнаабранага", аўтаматычна трапілі ў шэраг ворагаў, якіх называюць зараз па-рознаму: "жульё" (прадпрымальнікі і бізнэсмэны, якія патрабуюць стварэньня нармальных умоваў для разьвіцьця рынкавай эканомікі), "спадары" (усе, хто размаўляе па-беларуску ці проста думае пра будучыню Беларусі "неправильно") ці, "мягко говоря, малоразобравшиеся ещё люди" (усе, хто хоць у чымсьці запярэчыў прэзідэнту) і г.д.

Пры гэтым асноўны ўдар быў накіраваны супраць нацыянальнага Адраджэньня, канчатковай мэтай якога зьяўляецца пабудова паўнавартаснай эўрапейскай дзяржавы, грамадзяне якой будуць усьведамляць сябе гаспадарамі краіны, а ня статкам авечак, якія залежыць ад волі пастуха. На сьвет была выцягнута ідэя рэферэндума, пытаньні якога аўтаматычна паставілі грамадзтва на мяжу раскола. Уся сістэма дзяржаўнай улады была чарговы раз скіравана на падаўленьне (нездарма па бальшавіцкай тэорыі, дзяржава ёсьць апарат насільля) палітычнай апазіцыі, на падрыў яе аўтарытэту ў народзе. У ход былі пушчаныя даўно выпрабаваныя прынцыпы хлусьні: чым больш нахабна - тым больш веры. У выніку перад самымі выбарамі зьяўляецца на экранах фільм "Нянавісьць", у якім праводзіцца прамая паралель паміж фашызмам і БНФ. Мэта фільма відавочная - адабраць галасы выбаршчыкаў, якія зьбіраліся падтрымаць кандыдатаў у дэпутаты ад Народнага Фронту і пазіцыю БНФ па рэферэндуму. На фоне дэмагогіі пра "роўныя магчымасьці кандыдатаў" факт зьяўленьня такога фільма яскрава сьведчыць пра сутнасьць палітычных ды і маральных поглядаў "всерьёз и надолго" абраных "товарищей". Можна было б у адказ абурыцца, запатрабаваць паўтарыць па тэлебачаньню стужкі, якія распавядаюць пра злачынствы камуністычнага рэжыму, многія служкі якога і зараз вырашаюць лёс Беларусі. Ды навошта гэта?! Нашае жыцьцё і ёсьць сам лепшы фільм, які паказвае, хто ёсьць хто...

Таму, колькі б ня біліся галавой аб сьценку ў злосьці "товарищи", пасеяную нянавісьць у рэшце рэшт ім жа прыйдзецца і пажынаць. Таму асабіста мне іх пахрысьціянску шкада. Прыкра толькі, што цяжар іх пакут яшчэ некаторы час будуць падзяляць нашы людзі, частка з якіх наіўна спадзяецца, што пры "двуязычном" урадзе, пад камуністычнымі сымболямі зажывуць яны прыпяваючы, без усялякіх "спадароў" і г.д. Але гэта ілюзія, бо пакуль пры таталітарнай сістэме ў грамадзтве застаецца хоць адна разумная галава ды сумленнае сэрца, рана ці позна яна стане ненавіснай рэжыму. Таму ў той нянавісьці, штучна пасеянай у нашым грамадзтве, на жаль, будзе працяг, бо сейбіты яе пашчыравалі ад душы.

**Вітаўт РУДНІК.**

# ГРАМАДЗТВА

## ЛЕКАРЫ НЕ ЧАКАЮЦЬ, А ДЗЕЙНІЧАЮЦЬ

**У сям'і спадара Калічава з горада Бярозаўка Лідзкага раёна шасьцігадовы сын раптоўна пачаў лысець. Валасы выпалі на галаве, бровах, павеках. Пасьля дасьледаваньняў гарадзенскія дзіцячыя лекары выявілі ў арганізме хлопчыка вялікую канцэнтрацыю рэштказ цяжкіх металаў, якія і зьявіліся галоўнай прычынай аблысеньня. Зараз хворае дзіця патрабуе працяглага санаторна-курортнага лекаваньня.**

Трагедыя сям'і Калічава не адзіны выпадак у Бярозаўцы. Для высьвятленьня прычыны была створана сьпецыяльная група дзіцячых лекараў. Узначаліла групу загадчыца кафедры дзіцячых хвароб прафесар Ларыса Васільеўна Евец. Пасьля першай камандзіроўкі групы лекараў у Бярозаўку карэспандэнт "Пагоні" сустрэўся са спадарыняй Л.В.Евец.

"На месцы ў Бярозаўцы мы абсьледавалі 600 дзетак. У 200 абсьледаваных намі выяўлена значная канцэнтрацыя ў арганізме элементаў сьвінцу, ртуці, кадмію. Прычынай заражэньня дзетак зьявілася леташняя аварыя на мясцовым шклозаводзе. Менавіта падчас аварыі, калі размыла загараджальную дамбу і затапіла каля 350 дамоў, сярэднюю школу і дзіцячы садок, разам з адпрацаванай вадой вылілася шмат бруду і іншых таксічных рэчываў. Найперш ад гэтай аварыі пацярпелі, як заўжды, дзеці. Аблысеньне - гэта тое, што можна ўбачыць неўзброеным вокам. Намі ж высьвятлена, што ў пацярпелых нямала таксічных рэчываў у крыві. Рыхтуючыся да чарговай паездкі ў Бярозаўку, мы падрыхтавалі сьпецыяльныя тэсты, каб правесьці досьледы інтэлектуальнага разьвіцця дзетак. Ёсьць падазронасьць, што і тут могуць быць значныя адставаньні. Таксама гэтым разам з намі едуць афтальмолагі, эндакрынолагі. Калі ўвесь дасьледчы працэс будзе закончаны, мы складзем на хворых дзетак карткі з поўным дыягназам і праграмай неабходнага лекаваньня.

На жаль, нашы звароты да ўладных з просьбай выдаткаваць сродкі на распрацоўку праграмы не знайшлі падтрымкі. Ад высокіх асобаў мы пачулі, што ў іх няма грошай на харчаваньне людзей, а тут дзеці, якія могуць і пачакаць з лекаваньнем. Але, калі чакаць доўга, то можа здарыцца так, што грошы на харчаваньне не спатрэбяцца, бо ўжо ня будзе каго карміць. І каб такое ня здарылася, мы самастойна шукаем добрых людзей, фірмы і ў сябе на Бацькаўшчыне, і ў замежжы, якія былі б згодны выдаткаваць сродкі на лекаваньне гэтых дзетак. Скажу, што намаганьні нашы небеспасьпяховыя. Ужо зараз ёсьць грошы ад мецэнатаў, на якія сёлета мы здолеем падлекаваць 100 хворых дзетак", - распавяла Ларыса Васільеўна Евец.

**Распытваў Г.АСТРОЎСКІ.**

## ЦАРКВА І ФІЛАРЭТ ПАД ПАДАЗРЭНЬНЕМ

Плакаты з выявай Патрыяршага Экзарха ўсея Беларусі Уладыкі Філарэта са словамі ўдзячнасьці некаторым цывільным за садзейнасьць Праваслаўнай царкве знойдзены 13 траўня ў Менску. Аб гэтым паведаміў у Цэнтрвыбаркам кандыдат у дэпутаты Вярхоўнага Савету, старшыня Саюзу прадпрымальнікаў Беларусі Уладзімір Карагін. Жоўтым маркерам у сьпісе цывільных выдзелена прозьвішча грамадзян, вылучаных кандыдатамі ў дэпутаты Вярхоўнага Савету. Цэнтрвыбаркам прыняў інфармацыю Карагіна да ведама. Зараз гісторыя паходжаньня плакатаў высьвятляецца. Калі падчас праверкі выявіцца ўдзел царквы ў надрукоўцы плакатаў, то ўдпаведнасьці з указам прэзідэнта Беларусі А.Лукашэнкі аб роўных магчымасьцях правядзеньня выбарчай кампаніі, за матэрыяльную дапамогу кандыдатам у дэпутаты беларускі Экзархат Рускай праваслаўнай царквы павінен быць зьліквідаваны. Калі будзе даказана, што плакаты зроблены з ласкі Філарэта, то апошні павінен быць зьняты з пасады.

Механізм зьняцьця з пасады ўказ Лукашэнкі не прадугледжвае.

**"Э.-Х."**

***

16 траўня Горадню наведаў Мітрапаліт Менскі і Слуцкі Філарэт, Патрыяршы Экзарх усяе Беларусі, упраўляючы справамі Гарадзенска-Ваўкавыскай эпархіі. Ён сустрэўся з вернікамі і павіншаваў іх і сьвятароў са сьвятам Вялікадня.

У Сьвята-Пакроўскім саборы быў адслужаны малебен падчас якога Філарэт ускляў узнагароды сьвятарам эпархіі. Уладыка прыняў удзел у сходзе благачынных і сьвятароў благачыннай, а таксама сьвятароў горада, на якім абмяркоўваліся пытаньні аднаўленьня будаўніцтва храмаў і адкрыцьця новых прыходаў.

**А.Д.**

## У ЗАБАСТОЎШЧЫКАЎ НЯМА АДЗІНСТВА

У Салігорску працягваецца забастоўка настаўнікаў горада. Галоўная прычына забастоўкі - нізкі заробак.

Па словах старшыні прафсаюзнай арганізацыі СШ N 11 Аляксандра Новікава, на прэс-канферэнцыі 6 траўня большасьцю галасоў было вырашана працягнуць акцыю пратэсту. Аднак сярод педагогаў няма адзінства. Заняткі ў некаторых школах вядуць настаўнікі, ня згодныя з рашэньнем канферэнцыі і якія не пажадалі ўзяць удзел у бестэрміновай забастоўцы.

Бастуючых настаўнікаў Салігорска падтрымалі педагагічныя калектывы Пінска і Кобрына. На гэты час у Салігорску бастуе 12 школ. Мяркуецца, што да іх далучацца і калектывы ведамасных дзіцячых садкоў.

## ЗАРАБЛЯЮЦЬ ГРОШЫ ЗДАЧАЙ КРЫВІ

У апошні час у Бабруйску сталі расьці чэргі на станцыі пераліваньня крыві. Донарства, па ацэнцы галоўнага ўрача М.Запрудзкага, усё больш становіцца для гараджан сродкам папаўненьня сямейных бюджэт. За 400 грамаў крыві донар атрымлівае грашовую кампенсацыю ў памеры мінімальнай заработнай платы. Пры востр ым попыце на донарскую кроў, фінансавы аддзел Міністэрства аховы здароўя патрабуе рэзка скараціць прыём крыві.

М.Запрудзкі паведаміў, што, працуючы з павышанай нагрузкай, Бабруйская станцыя пераліваньня крыві запазычыла рэспубліканскай 100 мільёнаў рублёў. У сувязі з гэтым няма магчымасьці ня толькі своечасова выдаць зарплату сваім работнікам, але нават закупіць дастатковую колькасьць бінтоў і ваты.

## ВЫСТАВА НЕ АДКРЫЛАСЯ

Шматгаліновы кірмаш "Бізнэс-кантакт", які стаў традыцыйным і павінен быў адкрыцца 10 траўня, не адбыўся.

Асноўная прычына ў тым, што гэтым разам у аргкамітэт паступіла вельмі мала заявак ад польскіх фірм, дзякуючы якім у многім забясьпечвалася раней прэстыжнасьць Берасьцейскіх кірмашоў. Назіральнікі адзначаюць, што гэта вынік агульнай нестабільнай сітуацыі ў эканоміцы краіны.

**СІМ**

## БОГ І САТАНА

**Прытча на сучасную тэму**

Паспрачаліся Бог і Сатана нарэшце таго, ці зьмяніліся людзі за апошнія дзьве тысячы гадоў (гэта значыць з тых часоў, калі не прызналі і прадалі сына Божага - Хрыста).

Бог сказаў, што напэўна зьмяніліся, і на лепшае. Сатана - што не зьмяніліся, а калі і зьмяніліся, дык толькі на горшае.

І прапанаваў тады Сатана выбраць Богу любое месца на Зямлі, а ён - Сатана - дакажа, што людзі не зьмяніліся і што будуць яны слухацца яго і пойдуць за яго прадстаўнікам, як і два тысячагоддзі таму.

І абраў тады Бог адно з самых шматпакутных месцаў на Зямлі - Беларусь - і яе добразычлівых жыхароў, разьлічваючы, што ўжо хто-хто, а яны змогуць адрозьніць дабро ад зла, сьвятло ад цемры, праўду ад хлусьні.

І заслаў Бог на Беларусь аднаго са сваіх самых шчырых і сьвятых вучняў, а Сатана - аднаго з самых лукавых.

І хітраваў Лукавы. Абяцаў і тут жа падманваў. Гуляў на самых нізкіх людзкіх пачуцьцях, дзяліў людзей, падкупляў сьвятароў, папіхаў мараль, таптаў сьвятое, скакаў на магілах нявінных пакутнікаў, абліваў брудам Сьвятога...

А Сьвяты казаў людзям толькі праўду. Папярэджваў іх пра тое, што адбудзецца - і яно адбывалася. Заклікаў да сумленьня і маральнасьці, да памяці продкаў, заклікаў бараніць і цаніць сьвятое, прапанаваў ісьці да сьвятла, адкрываў людзям вочы на дзеяньні Лукавага...

Шлі гады. Людзі усё бачылі і ўсё чулі.

І нарэшце, напрыканцы вясны вырашылася спрэчка паміж Богам і Сатаной.

І праўду баль Сатана... бо большасьць людзей пайшла за Лукавым.

Раззлаваўся Бог. І ператварыў жыхароў Беларусі, што падаліся падману Сатаны, у аморфнае месіва, назваўшы яго насельніцтвам. І згінула яно з Гісторыі. А тых, хто пайшоў за Сьвятым, ператварыў у Народ.

І стане гэты Народ Вечным.

**Алесь АСТРОЎСКІ.**

## А ДАЛЕЙ – РАЗЬЛІК НА ДУБІНКІ

Пасьля Указа прэзідэнта N 113 - зьняцьця Іосіфа Сярэдзіча з пасады галоўнага рэдактара "Народнай газеты" - я страціла сваю любімую газету. На няшчасьце, газета будзе яшчэ прыходзіць у мой дом да ліпеня, але болей яе я выпісваць ня буду. Ня буду слухаць і наша радыё, глядзець тэлебачаньне, бо яно настолькі манапалізавана, што чым болей глядзіш і слухаеш, тым болей дэградуеш.

Сваім указам Вы, спадар Лукашэнка, адмежаваліся ад народа, а так любіце называць сябе "народным прэзідэнтам", бо, маўляў, вас народ абраў. Так, Вас! Таму што звычайнаму чалавеку надакучыла мана і здрадніцтва Кебіча з яго паслухмяна-маўклівай большасьцю ў парламанце. Выбралі Вас, а што атрымалі?

Паважаны Аляксандр Рыгоравіч! Ня бойцеся свайго народа, бо ніводзін жыхар Беларусі ня прагне бойкі, крыві. Народ хоча верыць Вам, ганарыцца Вамі. А наўзамен веры і гонару - папулісцкія абяцанкі, сілком навязаны па вашаму жаданьню рэферэндум. Ці прагнуў народ яго? Не. Рэферэндуму прагнула крупка пеньсіянераў-вайскоўцаў ды крывадушныя, ненавідзячыя суверэнную Беларусь арганізацыі, накшталт "Славянскага Сабору", "Саюзу афіцэраў". Замест таго, каб мацаваць дзяржаву эканамічнымі пераўтварэньнямі, Вы патураеце людзям, выкінутым самой гісторыяй. А што далей, пасьля рэферэндуму? Далей няма перспектывы ў Вас і вашых памагатых. Далей - разьлік на багнеты вайскоўцаў і дубінкі сьпецназу. Рэпетыцыя ў Авальнай зале з галадаючымі дэпутатамі прайшла на славу. Далей буйнамаштабныя аперацыі па падаўленьню апазіцыйных сілаў і пажаданая мёртвая цішыня з боку народа, які яшчэ ім ня стаў.

**М.ЖАРОВІНА,**
**г.Горадня.**

## ЧАТЫРЫ ЖАНЧЫНЫ – ЧАТЫРЫ РОЗНЫХ ЛЁСА

Першая зьлева - Любоў Аўтка, бацька якой загінуў на фронце, а яна ў 1,5 гадовым узросьце апынулася ў дзіцячым доме, дзе не дагледзелі і, як вынік, стала інвалідам дзяцінства.

Другая - Надзея Пілько. Сын Мікалай быў прызваны ў армію здаровы, а вярнуўся дахаты маральна скалечаны Аўганскай вайной. Пяць гадоў як яго ня стала.

Трэцяя - Эмілія Мількамановіч. Яе муж Сьцяпан загінуў на фронце ў красавіку сорак пятага ў баях за вызваленьне Польшчы.

Чацьвёртая - Лізавета Апарына, якая з 15 гадоў працавала на абаронным заводзе пад дэвізам "Усё для фронта, усё для Перамогі!". Па 12-14 гадзін працы каля станка, галодная і халодная, заядалі і вошы і блашчыцы. Навят траву вылі вакол завода. Людзі паміралі, што мухі, але працавалі. Цудам выжыла і Лізавета.



А як дзяржава паклапацілася аб тых няшчасных, у якіх загінуў бацька, зафчасна памёр сын, загінуў муж, хто падаў каля станка ад стомы. Яны цяпер забытыя, атрымліваюць жабрацкую пенсію, якой ледзь хапае на хлеб і ваду. У Любові Аўткі зьнесьлі хатку пад будоўлю дарогі, а ей далі аднапакаёвую кватэру і сказалі, што гэта часова. Але гэтае "часова" зацягнулася на шмат год. З 1983 года інвалідка чакае лепшага жытла, але дачакацца ўсё ня можа. А ці дачакаецца ўжо? За гэты час тыя, хто павінен быў паклапаціцца аб сям'і загінуўшага, змаглі адгрохаць асабнякі, маючы дабротныя кватэры. Як кажуць у народзе, свая кашуля бліжэй да цела. Яно так і ёсьць, таму і чакае Любоў Аўтка сваёй першай чаргі, як гэта прадугледжана не адной пастановай урада.

**Ільля БАРЫСАЎ.**

**НА ЗДЫМКУ: (зьлева направа) Л.АЎТКА, Н.ПІЛЬКО, Э.МІЛЬКАМАНОВІЧ І Л.АПАРЫНА.**

**Фота аўтара.**

## ПРАТЭСТ СУПРАЦЬ ЦЭНЗУРЫ

Як стала вядома, вядучы тэлевезійнай праграмы "Прасьпект" Павел Шэрамет падаў заяву аб звальненьні па асабістаму жаданьню. Адбылося гэта пасьля таго, як па патрабаваньню старшыні Нацыянальнай тэлерадыёкампаніі Рыгора Кіселя і начальніка ўпраўленьня грамадзка-палітычнай інфармацыі адміністрацыі прэзідэнта Уладзіміра Замяталіна, была падвергнута цэнзуры гатовая перадача.

Праграма выйшла ў эфір 7 траўня і з яе практычна цалкам была выразана частка відэаматэрыялу, зьвязанага з пытаньнямі дзяржаўнай сымболікі. Таксама з праграмы былі зьняты інтэрв'ю паслоў ЗША і Польшчы, дзе яны расказвалі аб гісторыі сымболікі сваіх дзяржаў. Адсутнічала інфармацыя аб тым, у сколькі абыдзецца падаткаплацельшчыкам зьмена сымболікі. Па дадзеным "Прасьпекта", для гэтага патрабуецца 30 мільёнаў долараў. Як заявіў карэспандэнту Павел Шэрамет, праграма "Прасьпект" спыняе сваё існаваньне "у сувязі з сітуацыяй ўціску на сродкі масавай інфармацыі, якія будзе толькі ўзмацняцца". Асабліва актыўна гэты працэс разьвіваецца пасьля прыходу ў прэзідэнцкую адміністрацыю У.Замяталіна.

**СІМ**

# СУМЕЖЖА

## ВЕСТКІ З ПОЛЬШЧЫ

### ГЭТА ЗАБОЙСТВА

**З нагоды рэферэндума, прапанаванага прэзідэнтам Беларусі, які адбыўся 14 траўня, прапануем чытачам "Пагоні" інтэрв'ю нашага карэспандэнта А.НАВІЦКАГА з некаторымі вядомымі ў Польшчы грамадзкімі і палітычнымі дзеячамі.**

- Гэта самазабойства. Гэта сьмяротны прысуд для беларускай культуры і мовы, якія ўжо не адродзяцца. А калі і адродзяцца, то не раней, чым памрэ пакаленьне савецкага народу. Менавіта вынікі рэферэндуму сьведчаць пра тое, што 80% жыхароў Беларусі - людзі савецкія, або людзі без нацыянальнай сьвядомасьці. Адзіная іх сьвядомасьць - сацыяльная.

Для мяне, як для беларускага пісьменьніка, гэта дзень жалобы. Я ведаў, што супраць беларускай нацыянальнасьці выкажацца шмат людзей, але не спадзяваўся, што аж столькі падтрымліваюць расейскую мову і будуць супраць нацыянальных сымбаляў.

Людзі схіляюцца да сумных прагнозаў адносна будучыні Беларусі. З гэтай Беларусьсю ніхто ў Эўропе не захоча мець кантактаў, - так пракаментаваў вынікі рэферэндуму і парламанцкіх выбараў на Беларусі пісьменьнік і грамадзкі дзеяч польскіх беларусаў Сакрат Яновіч.

Сапраўды, вынікі рэферэндуму зьдзіўляюць. Амаль тры чвэрці грамадзтва выказаліся за фактычнае абмежаваньне дзяржаўнай суверэннасьці ды адмовіліся ад атрыбутаў незалежнасьці уласнай дзяржавы. Падтрымку грамадзян Беларусі атрымала і антыдэмакратычная канцэпцыя Аляксандра Лукашэнкі. А вынікі парламанцкіх выбараў паказваюць, што гэта невыпадковая тэндэнцыя, бо найбольшую падтрымку у выбарах атрымалі людзі з атачэньня прэзідэнта, такія як Віктар Кучынскі, які абяцаў, што гонар Лукашэнкі ён будзе бараніць са зброяй у руках.

- Зразумела, - камянтуе Ежы Марэк Навакоўскі - вядомы польскі палітолаг, - народ мае права ўласнага голасу. Але Польшчы не ўсё роўна, якой будзе будучая Беларусь. Кожны польскі ўрад вельмі разьлічваў на добрыя, партнёрскія адносіны з Менскам. Напрыклад, у сувязі з планаванымі камунікацыйнымі інвестыцыямі, такімі як суперхуткая чыгуначная лінія Парыж-Масква альбо аўтастрада Усход-Захад. Беларусь была б стратэгічным партнёрам Польшчы. Небеспадстаўна ж польскія палітыкі часта падкрэсьлівалі, што Польшча вельмі зацікаўленая у суверэнітэце Беларусі. У сувязі з складанай сітуацыяй на лініі Варшава-Масква, палякам неабыякава, хто будзе іх суседам - Расея ці Беларусь.

Нарэшце, Польшча зацікаўленая ў дэмакратызацыі ды эканамічным разьвіцьці ўсіх дзяржаў, якія знаходзяцца за ўсходняй мяжой. "Мы хочам мець там партнёраў гаспадарчых ды палітычных, а не хаос, які узмацняе ў Польшчы пачуцьцё небясьпекі", - сьцьвярджае Е.М.Навакоўскі.

Можна баяцца, што стыль палітычнай кампаніі перад рэферэндумам і выбарамі, а таксама іх вынікі не узмацняюць дэмакратыі на Беларусі. Вельмі трывожнымі зьяўляецца факт, што беларускі народ праявіў звыродную настальгію па савецкіх часах. Гэты выбар можа стацца сур'ёзным аргумантам дзеля адбудовы імперыі, бо якраз гэтага найбольш не хапае палітычным элітам Расеі. Прэзідэнт Лукашэнка выйграў першы раўнд барацьбы з дэмакратычным і нацыянальным рухам у сваёй краіне. Цяпер ён павінен яшчэ больш баяцца будучыні. У сьвятле гістарычнае адказнасьці, якая павінна вызначаць персьпектывы павадыроў, дадзеная перамога можа давесьці да зьнішчэньня шанцу адбудовы беларускай дзяржаўнасьці і культуры. Падобнага шанцу можа ўжо ня быць.

Беларусь, краіна, якая мела найбольшыя страты ў часе Другой сусьветнай вайны, краіна, найбольш сурова выпрабаваная гісторыяй, апынулася на раздарожжы. Цяпер толькі ад мудрасьці саміх беларусаў залежыць тое, ці будзе такі народ у XXI стагоддзі.

### У БЯЛА-ПАДЛЯСЦЫ ПАДПІСАНА ПАГАДНЕНЬНЕ

Кіраўніцтвам Бяла-Падляскага ваяводзтва Польшчы і Берасьцейскай вобласьці заключана пагадненьне аб узаемным супрацоўніцтве. Гэты дакумант быў падпісаны пасьля сустрэчы старшыні Берасьцейскага аблвыканкаму Уладзіміра Заламая з Бяла-Падляскім ваяводай Тадэвушам Коршэнем, а таксама пасьля знаёмства з працай шэрагу прадпрыемстваў прамысловага і аграрнага сектару Польшчы.

**СІМ**

## РАСЕЯ

### СУПРАЦЬ МІЛІТАРЫЗМУ І ІМПЕРЫЯЛІЗМУ

"Барацьба супраць мілітарысцкіх і імперыялістычных тэндэнцый у расейскай палітыцы, садзеяньне ўсеабдымнай і кардынальнай ваеннай рэформе", - такія асноўныя мэты створанай Антымілітарысцкай Радыкальнай Асацыяцыі. Устаноўчы сход новай арганізацыі адбыўся 13 траўня ў маскоўскай штаб-кватэры радыкальнай партыі (РП). Удзельнікі сходу аднагалосна прынялі Статут, зацьвердзілі ўзносы на 1995 год.

Асацыяцыя плануе правесьці антымілітарысцкі мітынг, адкрытую асамблею РП у Чэлябінску і збор подпісаў пад зваротам за права на адмову ад вайсковай службы.

* * *

Збор подпісаў пад зваротам за права адмовы вайсковай службы, супраць мілітарызма ў Расеі пачаў Ніжнетагільскі Праваабарончы цэнтр. Такім чынам ніжнетагільскія праваабаронцы падтрымалі ініцыятыву расейскага аддзяленьня радыкальнай партыі. Сабраныя подпісы яны перадаюць у маскоўскую штаб-кватэру РП, адкуль іх накіруюць у Дзяржаўную Думу, Савет Федэрацыі і прэзідэнту Расеі.

### АГІТАЦЫЯ НЕ НА КАРЫСЬЦЬ ЧАРНАМЫРДЗІНА

"Черномырдин! Компрадор! В русском доме ты - как вор!", "Нет незаконному формированию Черномырдина!", "Мы не левые, и не правые, и не центр - мы выше!" - пад такімі лозунгамі і андрэеўскім сьцягам 15 траўня ў Маскве адбыўся пікет ліберальна-патрыятычнай партыі "Возрождение".

У несанкцыянаваным пікеце ўдзельнічалі сем чалавек. Лідэры "Возрождения" В.Скурлатаў і І.Брумель заклікалі прахожых галасаваць на будучых выбарах "супраць "партыі ўлады" Віктара Чарнамырдзіна" і "усяляк падтрымліваць дэпутата Дзяржаўнай Думы Расеі Вячаслава Марычава".

### СБМ ЗЬБІРАЕЦЦА СУДЗІЦЦА

Рэзалюцыю, якая асуджае "расейскую агрэсію ў Чачні", прыняў IV зьезд Саюза Башкірскай Моладзі, які адбыўся 13-14 траўня ў горадзе Уфа. У яго рабоце прынялі ўдзел больш 700 дэлегатаў з 9 гарадоў і 32 раёнаў рэспублікі.

Зьезд заклікаў байкатаваць восеньскі і вясновы прызыў у войска, дамагацца стварэньня механізма абароны моладзі, якая не жадае служыць у Чачні.

Выступіўшыя дэлегаты выразілі сваё абурэньне перадачамі "Радио Россия" и "Маяка", у якіх сьцьвярджалася, быццам СБМ ставіць асноўнай сваёй мэтай адлучэньне Башкортастана ад Расеі, а таксама што гэта маладзёжная арганізацыя пасылала сваіх баявікоў для вядзеньня ваенных дзеяньняў на баку Дудаева. Прысутныя вырашылі выступіць з абвяржэньнем у сродках масавай інфармацыі і падаць у суд на радыёкампаніі, якія, на іх думку, распаўсюдзілі неправераную інфармацыю.

**"Э.-Х."**

## БЕЛАРУСЫ ЗАМЕЖЖА ПРАТЭСТУЮЦЬ

Сябры ўпраўленьня Беларускага культурна-асьветніцкага Клуба ў Сіднэі (Аўстралія) накіравалі ў газету "Свабода" і лідэру Беларускага Народнага Фронту Зянону Пазьняку, а таксама прэзідэнту Беларусі Аляксандру Лукашэнку ліст, у якім выказалі занепакоенасьць палітычнай сітуацыяй на Беларусі. У прыватнасьці, прадстаўнікі беларускай дыяспары лічаць, што надзяленьне прэзідэнта правам роспуску парламанта - гэта спроба ўстанаўленьня дыктатуры.

На імя прэзідэнта Беларусі адрасаваны і ліст беларускай дыяспары ў Лондане. У лісьце паведамляецца, што "Беларусь атрымала сваю незалежнасьць без праліцьця крыві сваіх грамадзян. Новая Канстытуцыя рэспублікі гарантуе ўсім жыхарам дэмакратычныя правы, прынятыя ва ўсіх цывілізаваных краінах, і таму нас турбуе сітуацыя, у якой дэпутаты Вярхоўнага Савету былі пабіты ўзброенымі людзьмі. Мы, беларусы, пражываючыя ў Англіі пратэстуем супраць такога насільля над дэпутатамі".

**СІМ**

## УКРАІНА

### ВЕТЭРАНЫ СУПРАЦЬ РАСЕЙСКІХ МЕДАЛЁЎ

Свой пратэст супраць рашэньня Вярхоўнага Савета Украіны аб узнагароджаньні расейскім юбілейным медалём удзельнікаў Вялікай Айчыннай вайны выказала група украінскіх ветэранаў. Яны ўручылі атрыманыя медалі старшыні Вярхоўнага Савета Украіны Аляксандру Марозу.

Франтавікі запатрабавалі заснаваньня ўкраінскай узнагароды ветэранам Другой сусьветнай вайны, а таксама тым членам Украінскай паўстанцкай арміі, якія "змагаліся з фашыстамі і не заплямілі сябе злачынствамі".

### РАСЕЙСКІЯ ДЭПУТАТЫ ПЕРАМАГЛІ

З лікам 3:1 перамогу ў футбольным матчы над дэпутатамі Вярхоўнага Савета Украіны атрымалі дэпутаты Дзяржаўнай думы Расеі. Матч прайшоў 14 траўня.

Лепшымі футбалістамі расейскай каманды прызнаны Г.Бурбуліс і А.Чымінгараў. Першы ўдар па мячу зрабіў старшыня ўкраінскага парламанту А.Мароз. Ён не зьяўляецца членам футбольнай каманды Украіны з-за вялікай канкурэнцыі. Мяч для гульні спусьцілі на поле на парашуце разам з украінскім і расейскім сьцягамі. На трыбуне сярод балельшчыкаў прысутнічаў прэзідэнт Украіны Л.Кучма.

**"Э.-Х."**

## ВІЛЕНСКІЯ ПАВЕДАМЛЕНЬНІ

### ВАСІЛЬ БЫКАЎ НА ЛЕТУВІСКАЙ МОВЕ

У Саюзе пісьменьнікаў Летувы адбылася прэзентацыя выдадзенай на летувіскай мове кнігі вядомага беларускага пісьменьніка Васіля Быкава, у якую ўвайшлі дзьве аповесьці - "Альпійская балада" і "Воўчая зграя". Яна выдадзена Дзяржаўным выдавецкім цэнтрам пры падтрымцы і дапамозе пасольства Беларусі ў Летуве і беларускага "Зьнешэканамбанка". На прэзентацыю кнігі ў Вільню прыехаў яе аўтар - пісьменьнік Васіль Быкаў, у мінулым салдат другой сусьветнай вайны, які стаў славутым сваімі творамі на ваенную тэматыку.

На летувіска-беларускай мяжы В.Быкава і паэта Р.Барадуліна, які суправаджаў яго ў гэтай паездцы, сустрэлі прадстаўнікі Дзяржаўнага выдавецкага цэнтра і пасол Беларусі ў Летуве Я.Вайтовіч. На думку некаторых мясцовых назіральнікаў, тым самым прадэманстраваў павагу да апазіцыйнага пісьменьніка, які называе дзейнасьць цяперашняга прэзідэнта Беларусі "клінічным выпадкам". Свае вострыя публіцыстычныя артыкулы В.Быкаў друкуе ў газетах не сваёй краіны, а Расеі: "Московские новости", "Общая газета", "Аргументы и факты".

На сустрэчы ў Вільні В.Быкаў сказаў, што ў савецкія гады можна было закранаць толькі адзін асьпект ваенных гадоў - патрыятычны. Ён лічыць, што і зараз 50-годдзе заканчэньня Вялікай Айчыннай вайны адзначаюць з непатрэбнай пампезнасьцю.

### ЛЕТУВА І НАТА

На сумесным паседжаньні Ваенна-палітычнага камітэта НАТА і прадстаўнікоў Летувы прыняты дакумант, які ахоплівае мэты іх узаемадзеяньня.

У дакуманьце прадстаўлены планы абароннай палітыкі Летувы на 1995-1997 гады, ідэнтыфікаваны ўзброеныя сілы і вучэбныя цэнтры, якія на працягу трох гадоў павінны будуць дасягнуць узроўню стандартаў узаемадзеяньня з сіламі НАТА.

Прадстаўнікі краін-членаў НАТА далі высокую ацэнтку актыўнаму ваеннаму супрацоўніцтву Летувы з НАТА, сумесным намаганьням краін Балтыі па стварэньню Балтыйскага батальёна па падтрымцы міра ў былой Югаславіі.

Прадстаўнікі краін-членаў НАТА зьвярнулі таксама ўвагу на тое, што Летуве трэба перагледзець і павялічыць тую частку бюджэта, якая выдзяляецца на забесьпячэньне сіл абароны.

На паседжаньні былі пастаўлены пад пытаньне і некаторыя заканадаўчыя абмежаваньні адносна вайсковага супрацоўніцтва Летувы з НАТА.

### БОЙ З ЦЕНЯВОЙ ЭКАНОМІКАЙ

"Па адных падліках, на долю ценявой эканомікі ў Летуве прыпадае 30 працэнтаў, па другіх - 50 працэнтаў усяго эканамічнага патэнцыяла", - сказаў у інтэрв'ю Нацыянальнаму тэлебачаньню адзін з самых буйных эканамістаў краіны - акадэмік Эдуардас Вілкас, у мінулым дэпутат Вярхоўнага Савета краіны. Так ён пракаментаваў прычыны таго, што на паседжаньні Кабінета Міністраў Летувы адным з асноўных разглядаемых пытаньняў стала абмеркаваньне праграмы барацьбы з эканамічнай злачыннасьцю.

### РЫХТУЮЦЦА БАСТАВАЦЬ

Журналісты інфармацыйных перадач Дзяржаўнага тэлебачаньня Летувы канстатавалі, што сталы недахоп сродкаў згубна ўплывае на Нацыянальнае тэлебачаньне.

Дырэкцыя навін Летувіскага тэлебачаньня прапануе ўладам нарэшце вырашыць, ці патрэбна краіне Нацыянальнае тэлебачаньне, а жыхарам - інфармацыя. Таму журналісты інфармацыйных перадач вырашылі пакінуць за сабой права правядзеньня папераджальнай забастоўкі.

У красавіку для фінансаваньня Дзяржаўнага радыё і тэлебачаньня планавалася выдзяліць 2,195 мільёнаў літаў, аднак да апошняга дня месяца на рахунак ДРТ пераведзена ўсяго 600 тысяч літаў.

### ВІЛЬНЯ Ў РЭГІСТРЫ ПОМНІКАЎ

Урад Летувы выказаў удзячнасьць камітэту ЮНЭСКА па сусьветнай культурнай спадчыне за ўключэньне старой часткі Вільні ў лік унікальных помнікаў сусьветнай культуры і гісторыі - рэгістр сусьветнай культурнай спадчыны.

"Такое міжнароднае прызнаньне Летувы абавязвае ўрад рэспублікі кардынаваць дзяржаўную дапамогу ў справе захаваньня гістарычных помнікаў краіны. Таму ўрад вырашыў стварыць праграму па захаваньню і адраджэньню гістарычных зон Летувы", - гаворыцца ў звароце, падпісаным прэм'ер-міністрам Летувы А.Шляжавічусам.

**МГ**

